ISSN 0132-5957



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

2•2016
люты

Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

# Карыкатуры як мікстуры
















Малюнкі
Анатоля ГАРМАЗЫ
і Алега ПАПОВА.




## Несапраўдная сціпласць

*Міні-фельетон*

Сціплыя людзі заўсёды выклікаюць павагу. Яны не маюць звычкі падкрэсліваць свае вартасці, адрозніваюцца памяркоўнасцю і стрыманасцю. Сціплы чалавек умераны ў сваіх патрабаваннях, не гоніцца за раскошай, багаццем.

Але ёсць крывадушнікі, якія толькі прыкідваюцца такімі. Яны накшталт ваўкоў у авечай скуры. Звонку – самыя стрыманыя людзі, для якіх галоўнае – быць у згодзе з прынятымі правіламі этыкі. Унутры ж – сапраўдныя тарбахваты і падманшчыкі, якім усяго мала.

Вось вам прыклад такіх «сціплых ваўкоў». Сямейная пара прадпрымальнікаў з Магілёва прыкінулася малазабяспечанай і, прадставіўшы падробленыя дакументы, атрымала бязвыплатную субсідыю на будаўніцтва жылля і фінансавую дапамогу дзяржавы, прызначаную для пагашэння льготнага крэдыту.

На паперы яны выглядалі сапраўды беднымі людзьмі, якім не хапае грошай на самае неабходнае. Муж з жонкай наўмысна прынізілі сукупны даход і маёмаснае становішча сваёй сям'і, каб яшчэ больш яскрава паказаць, што яны простыя грамадзяне, далёкія ад раскошы.

Калі факт падману выкрыўся, на ўласнасць «сціплых ваўкоў» быў накладзены арышт. А гэта, між іншым, тры кафэ, гасцініца, адміністрацыйна-вытворчы корпус, дзве кватэры, чатыры аўтамабілі і два матацыклы. Мужа і жонку памясцілі за краты. Была ўзбуджана крымінальная справа, іх абвінавачваюць у махлярстве ў асабліва буйным памеры, здзейсненым групай асоб.

Цікава, кім яны на гэты раз будуць прыкідвацца? Можа, дурнямі, якія не разумелі, што робяць?

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**




Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.

Ганад ЧАРКАЗЯН





## Маім начальнікам



Дыпломы, значкі, медалі –
Вы бралі усё, што даецца.
Па гладкай дарожцы ішлі...
А што пасля вас застанецца?



Хоць смачны дараваны куш –
Мы ведаем, скуль ён бярэцца.
Усюды – падтрымка чынуш...
А што пасля вас застанецца?

Хто ў пекла імкнецца, хто ў рай,
Ды лёс абмінуць не ўдаецца.
Паболей багацця давай...
А што пасля вас застанецца?



На словы мае цяжкадум,
Магчыма, салёна ўсміхнецца.
Я шлях свой, як трэба, прайду...
А што пасля вас застанецца?

Шануй свайго дома цяпло,
А трэба – дай іншым сагрэцца.
Я ведаю: розум адолее зло...
А што пасля вас застанецца?



Вось вынік назойлівых думак маіх,
Хай слухае хтось ды злуецца
І дзеліць наш свет на сваіх і чужых...
А што пасля вас застанецца?

Пытанні, пытанні стаяць, як гара,
Хвалююць, трывожаць мне сэрца.
Ды я ўсё ж шукаю карэньчык дабра...
А што пасля вас застанецца?



Ёсць мудрасці наскай струменьчык жывы,
Што вечна з глыбіняў ірвецца.
Не знікне ўсё злое, як пойдзеце вы...
Але ж і дабро застанецца.

**Пераклад Казіміра КАМЕЙШЫ.**



Малюнак
Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.



Малюнак
Алега ГУЦОЛА.






*Прывітанне, калючы дружа!*

Як толькі ні дураць і ні падманваюць наіўных пакупнікоў у наш час! Здаецца, цяпер амаль у кожнай краме можна ўбачыць усемагчымыя псеўдаакцыі і псеўдараспродажы. Ужо ўсе прывыклі да «зніжак», калі старая цана меншая, чым новая. Але, як выявілася, здзіўляць яшчэ ёсць чым. У краме па вуліцы Берута ў Мінску ўбачыў я вось такі цэннік. Так і захацелася падысці да касы і папрасіць: «Прадайце, калі ласка, па старой цане!»

**Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*




## Дыялогі

Жанчыну, што начапіла на сябе ажно дзве лісіныя шкуркі, запыталі:

— Навошта вам адразу некалькі?

— Чым болей лісіц, тым болей і паляўнічых...

З размовы паміж урачом і пацыентам.

— Прымайце гэтае лякарства па дзесяць лыжак на дзень.

— А божачкі! Дзе ж я вазьму столькі лыжак? У мяне ёсць толькі чатыры.

Да хворага прыйшоў сябра і пытаецца:

— Ну, як тваё здароўе?

— Яшчэ прадоўжылі, — адказаў той і паказаў бюлетэнь.

**Лявон АНЦІПЕНКА,**
*г. Шклоў.*

## Мімаходзь

Нават калі жыццё не адказвае табе ўзаемнасцю, з ім не развядзешся.

І каханне з першага позірку можа скончыцца пасля другога спаткання.

Цэны на тавары падымаюцца — настрой падае.

Тэатр пачынаецца з вешалкі, а яго поспех — з запоўненага гардэроба.

Не трэба хадзіць пеўнем, нават калі ў цябе грошай куры не клююць.

Вучоба на чужых памылках не пазбаўляе ад умення рабіць уласныя.

Нават самае цяжкае гора не патапіць у алкаголі.

Калі іншы выкіне дурасць са сваёй галавы, дык не зразумела, што ў ёй застанецца.

**Даслаў Барыс КАВАЛЕРЧЫК,**
*г. Мінск.*



# Сеткі гвалту



*Памфлет*

Невялікая зала паступова пачала запаўняцца жанчынамі. Яны былі рознага ўзросту, выгляду і матэрыяльнага становішча. Усе маўклівыя, хавалі адна ад адной позіркі, не віталіся і не размаўлялі. Проста здымалі вопратку і сядалі на крэслы, састаўленыя ў круг.

Праз некалькі хвілін у залу зайшла хударлявая кабета гадоў сарака, агледзела прысутных і рушыла да свабоднага месца. Яна прысела, дастала з сумкі штодзённік, перагарнула некалькі разоў старонкі, затым яшчэ раз прабеглася вачамі па жанчынах і толькі пасля гэтага ціхенька прамовіла:

– Добры дзень. Кожны раз, калі прыходжу ў наш «круг», не ведаю, з чаго пачаць... Я шукаю новыя твары, адначасова радуюся і хвалююся за тых жанчын, якіх не бачу сярод прысутных. Цяжка знайсці словы, якія б ахарактарызавалі тую бяду, якая нас усіх тут сабрала. Але пра яе нельга маўчаць! Тэму гвалту жанчын у сям'і трэба асвятляць, а праблему вырашаць! Яна распаўсюджаная, а прадстаўніцы слабога полу, калі сутыкаюцца з ёю, не ведаюць, як сябе паводзіць і што рабіць.

Жанчыны адна за адной паднялі свае позіркі, у некаторых з іх у вачах чытаўся сорам ці нават жах.

– На нашых сустрэчах прынята расказваць гісторыі, дзяліцца вопытам. Мы прызнаёмся сабе і людзям, якія побач з намі, што сталі ахвярамі сямейнага гвалту. Гэта першы крок да таго, каб выйсці пераможцам са складанай сітуацыі і пачаць новае жыццё без страху. Я нікога ніколі не прымушаю выступаць, усё толькі па асабістым жаданні. Таму задам традыцыйнае пытанне: хто сёння гатовы расказаць сваю гісторыю? Усё ананімна, можаце не хвалявацца, – заверыла куратар сустрэчы.

Адна з прысутных падняла руку, уздыхнула, крыху памаўчала і пачала распавядаць:

– Мы пазнаёміліся, калі мне было 22 гады. Спадабаліся адно аднаму адразу, пачалі сустракацца. Усё было вельмі прыгожа. Уважлівы, клапатлівы кавалер, дарыў кветкі, рабіў сюрпрызы. Праз тры месяцы я пераехала да яго... Але аднойчы ён трохі выпіў, з-за чагосьці разгневаўся і пачаў кідаць усё, што трапляла пад руку: шклянкі, талеркі, ежу. Лаяўся, крычаў, казаў такія рэчы, што валасы дыбам падымаліся... Пасля гэтага, усё прааналізаваўшы, зрабіла для сябе выснову, што мая палавінка проста не любіць, калі ў яго нешта не атрымліваецца. Я ж павінна быць побач з каханым, супакойваць, падтрымліваць.

Усе жанчыны засяроджана слухалі расказчыцу. Тая перавяла дыханне і прадоўжыла:

– Праз яшчэ некалькі месяцаў ён пачаў мяне раўнаваць. Правяраў усе нумары ў тэлефоне, забараняў выходзіць на вуліцу, мець зносіны з сяброўкамі і нават бацькамі. Чапляўся да любой дробязі, каб толькі распусціць рукі. Часам «мой любы» пачынаў усведамляць сваю віну і зноў станавіўся тым, у каго я закахалася. Але ненадоўга... Ён ніколі не прасіў прабачэння і заўсёды казаў, што ва ўсім, што адбываецца, вінаватая я сама. Рукапрыкладства сапраўды прыносіла яму нейкае задавальненне. Біў і па твары кулаком, і рамянём па ўсім целе. А на другі дзень, нібы нічога і не здарылася, весяліўся і смяяўся... – яна прабеглася вачыма па ўсіх прысутных, шукала тых, хто адчуваў тое самае.

– Вось так працягвалася амаль два гады. Я ні з кім не магла падзяліцца, бо было вельмі сорамна. Пакуль аднойчы пасля чарговага здзеку я не ўспомніла пра сваіх бацькоў. Падумала: «Гэта ж сям'я, родныя, яны падтрымаюць і дапамогуць!» Пазваніла маці. Тая хутка прыехала і, вядома, усё адразу зразумела... Калі я расказала пра свой сакрэт, то не пачула ў адказ ніякіх папрокаў, хоць і вельмі гэтага баялася. Адзінае, чаго мама не магла зразумець, чаму я так доўга трывала. Тым вечарам адбылася апошняя размова з катам. Ён прасіў даравацъ, абяцаў, што гэта больш не паўторыцца і ўсё ў нас будзе добра. Хацелася верыць, але я тут жа ўспамінала, з якім непрыхаваным задавальненнем ён мяне біў! І вырашыла, што больш не траплю ў гэтую лжывую сетку абяцанак, – жанчына горда, як пераможца, узняла галаву, усміхнулася і прадоўжыла: – Цяпер у мяне ўсё добра. Я жыву ў іншым горадзе, працую, у мяне шмат сяброў і цікавых захапленняў. Пакуль што цяжка даверыцца новаму мужчыну, але спадзяюся, што ўсё самае лепшае наперадзе.

– Дзякуем вам за гісторыю. Яна павучальная і павінна даць штуршок тым, хто не можа рашыцца вырвацца з палону гвалту. Хто яшчэ хоча выказацца? – запытала куратар.

– Дазвольце мне, – выцягнула руку паўнаватая бландзінка. – Я слухала і дзівілася, якая вы моцная жанчына. Вы змаглі зрабіць крок, каб перамяніць сваё жыццё. Зайздрошчу

вашай рашучасці. Я пакуль не маю на тое сіл... З мужам жанатыя пятнаццаць гадоў. Маем двух дзетак. На першы погляд — звычайная сям'я. Ён працуе вадзіцелем, а я ў магазіне на складзе. Але ўсё мяняецца, калі муж пачынае піць. Здараецца гэта прыкладна раз у тры месяцы. Запой цягнецца тыдзень, а то і два. У гэты час у мужа нібыта д'ябал усяляецца. Б'е мяне і дзяцей. Калі на твары з'яўляюцца сінякі, бяру бальнічны ці падманваю ўсіх на рабоце, што выпадкова стукнулася. Бывае, хтосьці пачынае дапытвацца, а я жартую, маўляў, вельмі разяватая, у самой жа слёзы на вочы наварочваюцца ад сораму і крыўды. Хачу сысці, але няма куды. Адна справа ў сяброўкі з дзецьмі адзін ці два дні адседзецца (яна адзіная, хто ведае пра гвалт мужа). І зусім іншае — узяць сваіх крывінак і пачаць будаваць жыццё з нуля. Грошай не хопіць, не змагу пацягнуць двух дзяцей. Ды і мужа пры ўсім гэтым кахаю, у астатні ж час ён у мяне звычайны мужчына, які і грошы зарабляе, і адрамантаваць штосьці можа. Вось толькі з кожным такім загулам я ўсё больш баюся, а раптам ён не разлічыць сілы і знявечыць мяне. Не хачу нават думаць, што тады будзе з дзецьмі...

Жанчына, дагаворваючы апошнія словы, ужо не стрымлівала слёз. Куратар паднесла ёй кубак вады, абняла і супакоіла. Затым села на сваё месца і запытала:

— Можа, яшчэ хтосьці хоча расказаць сваю гісторыю?

Але ніхто не адказаў. Усе жанчыны панура глядзелі ў падлогу. Куратар пачакала хвіліну і прамовіла:

— Добра, тады ў мяне да вас толькі адна просьба: не кідайце прыходзіць у наш «круг», дзяліцеся праблемамі і перажываннямі. Мы будзем імкнуцца дапамагчы вам, каб выпутацца з сетак гвалту.

Пасля гэтых слоў жанчыны моўчкі падняліся, апрануліся і пакінулі залу. Куратар зрабіла некалькі паметак у штодзённіку і па звычцы патанула ў сваіх думках пра тое, як можна палепшыць жыццё гэтых гаротніц...

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**




Малюнак
Алега ПАПОВА.







Той чалавек, якога ты кахаеш ува мне, канечне, лепшы за мяне: я не такі. Але ты кахай, я пастараюся быць лепшым за сябе.

*Міхаіл Прышвін, рускі пісьменнік*




Малюнкі
Аляксандра БУЛАЯ.




Малюнак
Алега КАРПОВІЧА.




Малюнак
Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.

Мікола ГРАБЯНЁК

# Юбілярка



*Гумарэска*

У Маргарыты Флоксаўны набліжаўся юбілей.

– Ой, нешта зачасцілі да нас гэтыя круглыя даты. Ды каб яшчэ добра частавалі, а то абы адбыць, – шапнула на вуха суседцы кансультант галоўнага бухгалтара Роза Фікусаўна.

Уся бухгалтэрыя загаварыла, што Флоксаўна збіраецца ісці на пенсію: здароўе пачало падводзіць, ды і эканамічныя паказчыкі на прадпрыемстве пайшлі ўніз. Аддзел збыту прадукцыі, які яна ўзначальвае не адзін дзясятак гадоў, не спраўляецца з абавязкамі. Народ гудзеў, як пчаліны вулей: успомнілі і частыя спазненні на работу, і махінацыі з будаўнічымі матэрыяламі...

– А колькі разоў Флоксаўна нас «кідала», – абуралася яе намесніца Лілія Гладыёлусаўна. – Вечна мы павінны былі грошы закладваць. Хопіць гэтай скнары працаваць. Няхай дома ходзіць з дымарам каля пчол. Вунь, колькі калод развялі! Толькі пра сябе і пра начальства думала. Даўно трэба было яе



з гэтай пасады выкурыць. Ёсць кандыдатуры больш вартыя, вазьміце хаця б Фіялку Нарцысаўну – такая прабіўная жанчына!

У канцы працоўнага дня ў кабінет забегла «прафсаюзніца» Гартэнзія Цюльпанаўна.

– Ну што, да юбілею рыхтуецеся? Глядзіце, не ўгнявіце нашу Маргарыту, а то ёй яшчэ на тры гады кантракт прадоўжылі.

Усе заціхлі і моўчкі палезлі ў сумкі па грошы.

Юбілейны вечар падрыхтавалі хутка і па поўнай праграме: многа было выступленняў, хвалілі за шматгадовую і плённую работу, адміністрацыя нават узнагародзіла граматай і каштоўным падарункам.

Напрыканцы ўрачыстасці расчуленая Маргарыта Флоксаўна сказала:

– Паважаныя калегі, я вельмі ўзрушана вашай увагай. Шчыра дзякую за добрыя словы, за дарагі падарунак, але, на вялікі жаль, пачаставаць вас сёння не магу. Няма грошай – купілі новую машыну...

У зале ўсталявалася цішыня. Усе зразумелі, што Флоксаўна, ужо ў каторы раз, іх «кінула». Пачаставацца мядком не давядзецца...

*Шаркоўшчынскі раён,*
*в. Радзюкі.*






Малюнак
Міколы ГІРГЕЛЯ.




Сіла ў розуме. Галава без розуму, нібы ліхтар без свечкі.

*Леў Талстой,*
*рускі пісьменнік*




Малюнак
Ганны ДЗЮКАВАЙ і Аляксандра БАГДАНОВІЧА.

## Спарышы для душы



Былі сябры, калі было віно,
Ды ўжо ні чаркі, ні сяброў даўно.

Вельмі цяжка жыць стала на свеце!
Падстаўце плячо! Абапёрся... на вецер.



Сябры мае – нібы валошкі ўлетку,
Люблю іх вельмі, толькі бачу зрэдку.

Хай ледзь жыву, ды ўсё ж паўзу такі-сякі!
Чаму? Дык на тым свеце адляжу бакі.

Даўным-даўно – пенсіянерка,
А ўсё ўглядаецца ў люстэрка.

Таму, хто жыць надумаў вечна,
Праблем намнога больш, канечне.

Як абяцае ў меру,
То больш тады даверу.

З любай жонкай у абдымку
Цяплей намнога мужу ўзімку.



Удзень для савы
Красун і крывы.

Душа ў эдэме, п'яніца – пад плотам,
Што цела ў пекле, яму верыць неахвота.

Я сам з вады, але мой дух
Усё ж палае, не патух.

Не знае аптэкі карова,
Бо зёлкі жуе – і... здарова.



Па снезе бегай, па расе,
І змыюцца хваробы ўсе.

«О, ежа! З-за цябе ў нас гэтулькі бяды!» –
Крычалі, плакалі і тлусты, і худы.

Наеўся Мікола ад пуза бліноў,
Ды сесці паесці не супраць ён зноў.

Быў гэткі хуткі, гэткі вёрткі,
Аж уцяклі пад ложак порткі!

Адкаласілася кахання ніва,
Але на жоначку гляджу раўніва.



Абняў каваль куму, ды, як на ліха,
Бразгоча звонку клямкай кавaліха.

Выжывае той у горы,
Хто не кісне, хто бадзёры.

Паляўнічы на Піліпаўку аж вые:
Ёсць ліцэнзія, а дзе ж ваўкі жывыя?

Калі не жадаеш адвечнай бяды ты,
Тады, даражэнькі, не лезь у крэдыты.



Як тут Любе не ўздыхаці?
Жаніха не бачна ў хаце!

Жыву, ды толькі ўсведамленне муляе,
Што кожнае імгненне ўжо – мінулае.

**Алесь КОРНЕЎ,**
*г. Баранавічы.*




Малюнак
Алега ПАПОВА.




Малюнак
Тамары РАДАВАНАВІЧ і Андрэя СІДАРЭЙКІ.



Малюнак Аляксандра ШМІДТА.

## Ода жанчынам

Жанчынам варта дзякаваць за гэта:
Яны — у цэнтры нашага Сусвету.
Не спыняць рух ні зоркі, ні планеты,
Бо ёсць «перпетуум-мобіле»*
— кабеты!

**Васіль МАКАРЧУК,**
*Пружанскі раён,*
*в. Лінова.*

*«вечны рухавік»




## Сіла рэкламы

У мэблевы салон зайшла жанчына, каб выбраць шафу. Больш за гадзіну круцілася яна там, але безвынікова. Прадаўшчыца нарэшце не вытрымала і з іроніяй спытала ў наведвальніцы:

— Пад палюбоўніка шафу падбіраеце? Вось гэтая вельмі добрая. Тут і сесці можна, і адчыняецца ціхенька, не рыпіць. Ну, і дыхаць у ёй лёгка — дубовая ўсё-ткі.

На вялікае здзіўленне прадаўшчыцы, жанчына купіла менавіта прарэкламаваную шафу...

**Даслала Нэла ЛОСЬ,**
*Пастаўскі раён,*
*г. п. Лынтупы.*






Малюнак Ганны ДЗЮКАВАЙ і Аляксандра БАГДАНОВІЧА.

**Таццяна ДЗЕМІДОВІЧ**

# Прапажа



*Быль*

Доўгі час Валянціна і не ўспамінала пра лакіраваную чорную скрыначку з золатам, якая была схавана на антрэсолі пад ручнікамі. Але раптам выявілася, што ўсе сямейныя каштоўнасці Лапушкаў некуды зніклі.

– Трэба выклікаць міліцыю! – загаласіла жанчына. – Хай шукаюць злодзеяў!

Праз гадзіну ў кватэру завітаў участковы.

– Успамінайце, хто апошнім часам быў у вас у гасцях?

– І не згадаеш так адразу, – уздыхнуў Змітрок, муж Валянціны.

– А што тут думаць? – падпёршы рукамі шырокія бакі, заверашчала жонка. – Сябрук твой Ванька, шахматыст, ходзіць да нас кожны вечар. На выгляд сарамлівы, а вось усмешка хітрая-хітрая! Такі сябар мог што хочаш украсці.

– Ды што ты, Валянціна! – запярэчыў муж. – Ванька – прыстойны чалавек! Акрамя шахмат, нічым не цікавіцца...

– Разбяромся, – сказаў міліцыянер і запісаў адрас шахматыста.

– А ці не твая сястра Ала наша золата сцягнула? – раптам выказаў здагадку Змітрок. – Гасціла яна ў нас на мінулым тыдні ажно некалькі дзён. Скардзілася, што сын у горадзе кватэру будуе, а грошай не хапае. Ды і пярсцёначкам, што я табе на гадавіну вяселля падарыў, захаплялася...

– Разбяромся, – паўтарыў міліцыянер, запісваючы адрас сваячкі.

– Глупства кажаш, Змітрок, – абурылася жонка. – Сястра мая ўжо і забылася на гэты пярсцёначак, я ж кожны дзень у золаце не хаджу... На нашай птушкаферме лішняе гэта! Перад кім мне там красавацца? Перад курамі? Адзіны мужчына побач ходзіць – Сцяпанавіч, вартаўнік. І то заўсёды п'яны...

– А можа, гэта ён украў золата? – западозрыў мужчына. – Круціцца пад нашымі вокнамі штовечар...

– Можа быць! – падтрымала мужа Валянціна.

– Разбяромся, – адрэзаў міліцыянер і дадаў яшчэ і адрас Сцяпанавіча.

Тым жа вечарам у кватэры Лапушкаў сабраліся ўсе магчымыя злодзеі: шахматыст Ванька, Валькава сястра Ала і вартаўнік Сцяпанавіч.

– А вочы, бачу, несумленныя ў тваёй сястры! – дакорліва казаў жонцы Змітрок. – Вунь як пачырванела ўся!

– Ты на свайго сябрука лепей паглядзі! – адказвала Валянціна. – Згорбіўся ўвесь ды маўчыць. У ціхім балоце чэрці вядуцца.

– Трэба ў выпівохі золата шукаць! – пачала абвінавачваць Сцяпанавіча Ала. – А табе, Змітрок, я яшчэ прыгадаю гэта! Сваякоў за краты вырашыў пасадзіць. Падумаць толькі...

Доўга яны пераліва́лі з пустога ў парожняе ды так і разышліся з-за адсутнасці відавочных доказаў і чыстасардэчных прызнанняў.

Шахматыст Ванька з таго часу больш не заходзіў да Лапушкаў, сваячка Ала перастала званіць. Толькі Сцяпанавіч, забыўшыся на крыўду, грукаў кожную нядзелю ў дзверы з просьбай пазычыць грошай на гарэлку.

З-за прапажы Валянціна яшчэ не раз плакала. Але аднойчы падчас рамонту Змітрок адсунуў ад сцяны шафу і знайшоў пад ёй знаёмую чорную скрыначку.

– Успомніў! – пляснуў сябе па лбе мужчына. – Гэта ж мы з табой, Валя, золата і перахавалі. Ты яшчэ казала, што ненадзейна ў ручніках такія каштоўнасці трымаць. А пад шафу, маўляў, зазіраць ніхто не будзе.

Жонка засяроджана пацёрла рукамі скроні:

– Штосьці такое згадваю... Але цьмяна.

– Трэба міліцыянеру патэлефанаваць, а то пяць гадоў у яго нераскрытае злачынства вісіць. І ў Ванькі, Сцяпанавіча ды Алы выбачэння папрасіць... – пачаў услых разважаць Змітрок.

– Пачакай! – спахапілася Валянціна. – Няёмка, вядома, атрымалася... Але, можа, яны ўжо на ўсё забыліся?

– Забудзешся на такое! – хмыкнуў Змітрок і ўзяўся за тэлефонную трубку.

*г. Брэст.*



## Нахапала...

Людзей-хапуг можна сустрэць даволі часта. Яны адрозніваюцца празмернай сквапнасцю, прагай да нажывы і нават эгаістычнасцю. Жывуць па прынцыпе: толькі сабе і больш нікому.




Але жыхарка Гродна можа ўсім хапугам даць сто ачкоў наперад. Бо ў яе атрымалася набраць даўгоў у сваіх сяброў і знаёмых ажно на пяць мільёнаў долараў. Яна расказвала даверлівым людзям, што грошы ёй патрэбныя для развіцця бізнесу ў Расіі, і абяцала добрыя працэнты з пазычаных сум. Спачатку іх нават выплачвала, а вось асноўны доўг вяртаць, як аказалася пазней, не збіралася. Грошы яна брала ў тым ліку і ў прадпрымальнікаў мясцовых рынкаў, абяцала ім сумеснае вядзенне бізнесу. У дадатак яшчэ займалася незаконнымі валютна-абменнымі аперацыямі.

Пакуль адшукалася дванаццаць пацярпелых, але супрацоўнікі Следчага камітэта лічаць, што іх значна больш. Зараз вядзецца следства. Жанчыне-хапузе пагражае да дзесяці гадоў зняволення з канфіскацыяй маёмасці. Як лічыце, ці добрая плата за празмерную сквапнасць?




## Гарэлка да дабра не давядзе!

Гарэлка яшчэ нікога ніколі да дабра не даводзіла, з-за яе людзі часта нажывалі велізарныя праблемы.

Так, у Гродне на вуліцы Пушкіна супрацоўнікі ДАІ затрымалі п’янага

г. Гродна




вадзіцеля. Пра тое, што на плошчы Леніна па бардзюрах ездзіць машына Audi, паведаміла пільная жанчына.



Было выяўлена, што ўтрыманне алкаголю ў крыві вадзіцеля амаль у дзесяць разоў перавышае гранічна дапушчальнае значэнне. У выніку мужчыну на тры гады пазбавілі правоў і яму давядзецца выплаціць штраф у памеры да 21 мільёна рублёў.

Добра, што з-за такой п’янай язды ніхто не пацярпеў, а то гарэлка чарговы раз у прамым сэнсе загубіла б чыё-небудзь жыццё.

## Псеўдадэсантнік

Як вы сабе ўяўляеце служачых Паветрана-дэсантных войскаў? Напэўна, так: магутныя волаты ў блакітных берэтах, якія могуць не тое што з лёгкасцю падкову разагнуць — цагліну з аднаго ўдару ўшчэнт разнесці.



Шаснаццацігадовы хлопец з Гродна, мабыць, зайздросціў такой моцы. Таму вырашыў прадэманстраваць, што ён нічым не горшы. У вёсцы Гудзевічы Мастоўскага раёна хлопец рукамі і нагамі пашкодзіў 43 секцыі жалезабетоннага плоту. Тым самым нанёс урон мясцовай гаспадарцы на суму больш за пяць мільёнаў рублёў.

Узбуджана крымінальная справа па артыкуле «Хуліганства». Лепш бы ён пачакаў два гады і пайшоў у армію: там «асілка» б навучылі, як стаць сапраўдным дэсантнікам.





Малюнак Пятра КОЗІЧА.




# Не толькі сябар, але і цёзка



*Для сапраўднага сяброўства не існуе ні адлегласці, ні часу, ні нават моўнага бар'еру. Прынамсі, нішто з пералічанага не перашкодзіла цёплай прыяцельскай сустрэчы двух «Вожыкаў» – беларускага і армянскага. Так-так, аказваецца, жыхароў цудоўнай горнай краіны вось ужо болей за 60 гадоў весяліць пабрацім і цёзка нашага любімага гумарыстычнага выдання – «Вазні». Шчыра вітаем паважанага госця!*

*Трывалая сувязь з лепшымі дасягненнямі нацыянальнай літаратуры і графікі, умелае карыстанне скарбніцай народнай творчасці, прыцягненне да актыўнага супрацоўніцтва слынных майстроў сатыры і гумару – вось тыя складнікі, якія забяспечваюць армянскаму часопісу высокі мастацкі ўзровень, а таксама робяць яго блізкім і зразумелым кожнаму чытачу. І хоць «Вазні» – выданне сатырычнае, добраму гумару тут заўсёды знаходзіцца месца. Нездарма адзін з галоўных рэдактараў часопіса, вядомы паэт Арамаіс Саакян аднойчы сказаў: «Няхай дом кожнага армяніна стане домам смеху». Дзеля такой мэты і сёння працуе рэдакцыйны калектыў – плённа, творча і натхнёна. Прапануем упэўніцца ў гэтым нашым чытачам!*



## Анекдоты

У гультая спыталі:
– Што лепей: добра паесці ці паляжаць?
– Паесці лежачы.



* * *

– Пазыч мне 1000 драм.
– Я маю толькі 500.
– Нічога, давай, а яшчэ 500 будзеш мне павінен.

* * *

Даішнік спыняе машыну і пытае ў вадзіцеля:
– Адкуль едзем?
– З Гюмры.
– Штраф 7000 драм.
– За што?!
– Ад Гюмры да Ерэвана ты напэўна дзесьці парушыў...

* * *

Двое армян прыехалі ў Лондан. Убачылі двухпавярховы аўтобус і вырашылі пракаціцца. Адзін падняўся на другі паверх і тут жа ўсхвалявана крыкнуў таварышу:
– Заставайся ўнізе! Тут няма вадзіцеля!


Ц. КАНТЭХ.


В. АБРАЯН.


А. МАРОЗАЎ.



— Малы, каго ты любіш больш?
— Дзеда Мароза!

**Ал. ТАШЧ'ЯН.**

Начальнік звяртаецца да работніка:
— На жаль, не магу павысіць суму вашай зарплаты.
— Тады плаціце столькі ж, але часцей...

* * *

У Пагоса з жонкай нарадзіўся сын. Немаўля часта плакала, а жонка скардзілася, што муж ёй не дапамагае. Тады мужчына прапанаваў:

— Давай сёння ноччу падзяжуру я, заўтра — ты, і так далей па чарзе.

Ледзьве толькі маладая сям'я заснула, як у пакоі пачуўся плач. Пагос — ні з месца. Жонка не вытрымала:

— Дзіця крычыць, сёння твая чарга супакойваць.

— Якая табе справа? У мае дзяжурствы хай сабе плача, колькі хоча!

* * *

З аб'явы: «Згубіў кашалёк. Таго, хто знойдзе, прашу з мяне не смяяцца...»

**Бабкен КАРАПЕЦЯН**

## Бывае і так...

Не ў святым сутарэнні,
Не ў харомах баяр,
А ў будрэмупраўленні
Жыў-служыў Мангасар.
— Мангасар?
Ён жа зняты
Ўжо з пасады даўно!
— Падабраў жа пасаду
Кажуць, хтось яму зноў.
Забываюцца ж беды —
І жыве, як паніч,
Хоць заместа «Пабеды»
Яго возіць «Масквіч».
Як быў зняты —
Не будзем
Азірацца назад.
Вунь чытае ён людзям
Зноў на сходзе даклад.
Фаліянты гартае
І аб безлічы спраў
Па паперцы чытае
Тэкст, што сам не пісаў.
Тараторыць,
Як ментар,
Бессэнсоўна, бягом,
І пад апладысменты
Ўсе праводзяць яго.
— Мангасара?
Ён зняты
Ўжо з пасады даўно!
Сёння на прафпасаду
Выбіраем ізноў.
Ходзіць з самага рання,
Важна зырыць кругом,
Тайным галасаваннем
Выбіраюць яго.
Акуратна,
Культурна
Бюлетэні кладуць
У маўклівую урну,
Супраць слова не ўчуць.
«Адрасок» віншавальны
Мангасару гатоў,
І ўзяліся старанна
За падлік галасоў.
Але як ні імкнуцца
Спрыт сябры паказаць:
— Дзвесце семдзесят — «супраць»
І адзін толькі — «за».
Тут як тут тэрмінова —
Аспірант і дацэнт:
«Падлічыць мы гатовы
«За» і «супраць»
Працэнт».
Ды плыве — як ні б'юцца! —
З вылічальных машын:
Дзвесце семдзесят — «супраць»,
«За» — ўсё роўна адзін.
Выйшаў сябра-таварыш —
Ён знайшоўся ураз! —
Шэпча так Мангасару:
«Гэта я быў за Вас».
Мангасар — дзе ж падзецца! —
Ходзіць сумны, як цень.
І другі прызнаецца:
«Гэта ж мой бюлетэнь».
І чацвёрты,
І пяты,
Шосты:
«За» — гэта мой».
Сёмы,
Восьмы,
Дзявяты
Паўтараюць гурбой.
Мангасару аж млосна:
Сцяміў — справа хана.
«Кіньце, — крыкнуў ён злосна, —
Вашы словы — мана!»
Хто б ні кляўся без стомы,
Хто б тут што ні казаў,
Мангасару вядома:
Ён адзін толькі — «за».

*«Вожык», № 15, 1977 г.*

– Прывітанне, як справы?
– Як могуць быць справы, калі ціск вышэйшы, чым зарплата!

* * *

– Ара джан, папільнуй краму, я хутка вярнуся.
Праз паўгадзіны прадавец прыходзіць і бачыць, што паліцы пустыя.
– Дарагі, я ж прасіў цябе глядзець за крамай!
– Я і глядзеў. Уважліва сачыў, хто што бярэ...

* * *

– Брат Кероп, добры абутак ты мне пашыў. Колькі паслужыць?
– Калі не будзеш насіць, дык гадоў сто!

* * *

Мужчына сустракае знаёмага з торбай пустых бутэлек у руках.


Г. БАЛАЯН.

– Што, вырашыў здаць тару?
– Ды не. Пасварыліся з жонкай. Яна сказала, каб збіраў свае пажыткі і ішоў прэч...

* * *

– Падкажы, што падарыць жонцы на дзень нараджэння?
– А ты лепей спытайся ў яе самой.
– Не, столькі грошай у мяне няма...

* * *

Сімон адправіўся ў горы, але вярнуўся з паўдарогі.
– Сімон джан, відаць, ты нешта забыў?
– Вось успомніў, што жонка на мяне ўчора павысіла голас, а я прамаўчаў. Пайду адкажу і – зноў у горы.

* * *

– Наш сваяк Аршак аказаўся ашуканцам і махляром, – скардзіцца мужчына з Лоры. – Па тэлефоне паведаміў, што памірае. Я два дні чакаў, урэшце прыехаў з вянком – а ён жывы!

* * *

Армянская маці сварыцца на сына:
– Глядзі, за шкоду атрымаеш прачуханца!


Запрашаю правесці зіму ў маёй цёплай і бясплатнай «кватэры»!
М. ФАРЭМУЗЯН.

– Мама джан, прачуханец – гэта такая цукерка ці долма?

* * *

Ерыкназ з Лоры ўбачыла, што па тэлевізары пачалася праграма з удзелам папулярнага спевака. Тут жа пстрыкнула пультам і пабегла да суседкі.
– Соня джан, чым займаешся?
– Воўну мыю. А што здарылася?
– Кідай, пайшлі добры канцэрт глядзець. Я спецыяльна тэлевізар выключыла, каб праграма не скончылася...

# Фразы

Асфальт няякасны? Град вінаваты...

Галы лічаць... пасля гульні.

Дай яму «Масквіч» – пажадае і «Волгу».

**С. МКРТЧАН**

Жонка: «Чаму ты, мужанёк, больш не гаворыш мне пяшчотных слоў?»
Муж-бухгалтар: «Ліміт скончыўся»...

**М. АЎСЕПЯН**

– Грамадзянін, колькі вам тлумачыць: вы атрымліваеце пенсію якраз з той зарплаты, якую мелі прадаўцом.
– Але ж не ўлічылі мой «левы» даход!

**М. МКРТЧАН**


Ф. ДАРБІНЯН.
Прад'явіце дакументы, што вы Дзед Мароз.

**Анекдоты і фразы з армянскай пераклаў Ганад ЧАРКАЗЯН.**






# Каб з'яуляліся новыя ўсмешкі

*Хтосьці, як гераіня вядомага савецкага фільма, лічыць, што пасля сарака гадоў жыццё толькі пачынаецца, а камусьці падаецца, што разам з прыходам пенсіі яно губляе значную частку сваіх фарбаў. Насамрэч узрост тут ні пры чым, галоўнае – маладосць душы, якая гарантавана тым, хто глядзіць на гэты свет праз прызму творчасці і, вядома ж, гумару.*

*Сённяшняя вожыкаўская дэбютантка Раіса Васільева – якраз з такой кагорты вечна маладых, нягледзячы на тое, што нарадзілася ў далёкім 1930-м годзе ў горадзе Мазыры. Усё жыццё прысвяціла педагагічнай дзейнасці, працавала настаўніцай матэматыкі. Пра яе літаратурныя здольнасці ведалі толькі родныя і блізкія: Раіса Сцяпанаўна складала ім цудоўныя вершаваныя віншаванні. Але пяць гадоў назад яна паспрабавала выйсці са сваёй творчасцю да чытача – і не прагадала. Зараз Раіса Васільева з'яўляецца членам гомельскіх літаб'яднанняў «Пралеска» і «Родники», яе вершы друкаваліся ў газеце «Гомельская праўда», часопісах «Метаморфозы» і «Мир животных», гумарыстычныя замалёўкі – у «Звяздзе».*

*Свае творчыя здольнасці паэтка рэалізуе не толькі ў літаратурным мастацтве, але яшчэ і ў дэкаратыўна-прыкладным. Яе карціны з саломкі зачароўваюць прыгажосцю ўзораў, дасканалай тэхнікай выканання. Усё гэта мелі магчымасць ацаніць наведвальнікі дзвюх персанальных выстаў Раісы Сцяпанаўны.*

*А чытачы «Вожыка», мы ўпэўнены, ацэняць гумарыстычны талент нашай дэбютанткі. На гэта спадзяецца і сама Раіса Васільева: калі з'яўляюцца новыя ўсмешкі – значыць, варта пісаць, жартаваць, радаваць людзей.*

## Выйдзе бокам

На рыбалку Ясь прасіўся.
Перад жонкаю бажыўся
(Ўмеў брахаць)
Ні любімага хмяльнога,
Ні гарэлкі – не, нічога
Ў рот не браць.

Ён, маўляў, паедзе блізка,
Знойдзе зручны бераг нізкі,
Пасядзіць.
А калі прыцісне смага,
Будзе са сваёй біклагі
Каву піць.
Адпрасіўся – ўраз сабраўся,






Трохі нават хваляваўся,
Ноч не спаў.
Толькі да ракі прыехаў –
Кінуў вуды ўсе са спехам,
Торбу ўзяў.

Эх, пайшла, пайшла «рыбалка»!
«Вудзіў» Ясь з суседам Саўкам
Цэлы дзень.
Схамянуўся, як праспаўся:
«Без улову я застаўся!
Восьален!»

Ўбачыў Ясь цвярозым вокам,
Што рыбалка выйдзе бокам...

## Сабачка і задачка

Жыве Жучка, не бядуе,
Яе песцяць і цалуюць,
Кормяць, пояць, забаўляюць,
Мыюць, чэшуць, апранаюць.

Дык нашто жанчыне дзеці?
З імі клопат ва ўсім свеце.
А сабачку ты прыдбай –
Нібы з лялькаю, гуляй.

Як такое павядзецца,
То і люд перавядзецца.
Як тады сабакам жыць?
Хто штаны ім будзе шыць?..

**Раіса ВАСІЛЬЕВА,**
*г. Гомель.*






# Мініяцюры

## Азарэнне са спазненнем

Каб ізноў жыццё пачаць,
Не цягаў бы ношы,
Стаў бы лепей вывучаць,
Як хто робіць грошы.

## Няроўны шлюб

Хапіла ж у старога розуму
У жонкі маладзіцу ўзяць.
Цяпер даводзіцца цвярозаму
Каханкаў з хаты выганяць...

## Хочаш жыць...

І ў гадзюкі ёсць сям'я –
Куча жвавых змеек.
Вось і круціцца яна:
Жыць жа трэба неяк.

## Марная надзея

Штодня з даўжэзнай вудай дзед
Сядзіць падоўгу ля ракі,
Ды замест рыбы на абед
Зварыла жонка зноў «ражкі».
Не разумее ён ніяк,
Што знішчыў рыбу аміяк.
Ў рацэ не тое што сама,
Звычайных жаб – і тых няма.

## Старасць — не радасць

«На мясе так адгадваўся, –
Сказаў загоншчык, – ледзь ідзе».
А воўк ад голаду хістаўся,
Жыў шэры на адной вадзе.
Дажыць да старасці ўдалося,
Але зубоў не засталося.

## Абсалютны слых

Усе шляхі вядуць да Рыма
І ў Мекку, да святой зямлі.
Але на гэта пілігрыму
Патрэбны еўра і рублі.
Калі ў кішэні ні «шыша»,
Хай дома моліцца душа.
Бог адусюль нас чуе ўсіх,
Бо мае абсалютны слых.

## Сабачая кемлівасць

Разумны сабака ніколі
Не стане брахаць на дзяцей,
А вельмі разумны, тым болей,
На рослых і дужых людзей.

**Анатоль ЦЫРКУНОЎ,**
*г. Мінск.*

Смехапанарама «Армейскі гумар» мастака Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

# Каб і хацеў — не прыдумаеш!

«Паржавелі трубаправоды і іншыя недахопы».

*(З даведкі.)*



«У мяне незакончаная вышэйшая адукацыя з чырвоным дыпломам».

*(Са скаргі.)*



«Прадаюцца качаняты ад гусей».

*(З аб'явы.)*



«Кожны з іх унёс хоць маленькі, але значны і вялікі ўклад у агульную справу».

*(З выступлення.)*



«Настаўнікі памераліся сваёй падкаванасцю».

*(З допісу ў рэдакцыю.)*



«Пра працалюбівую даярку цёпла адгукаюцца калегі і кіраўніцтва, а таксама падапечныя каровы, якія з удзячнасцю дазваляюць гладзіць сябе».



«Сітуацыя не ліквідавалася і пакінула насельніцтва без вады».

*(З газет.)*

**Выпісаў**
**Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*




## Дзмітрый ПЯТРОВІЧ

### Анатомія душы

*Мне страшно по ночам лежать в холодном доме*
*И чувствовать сквозь сон скитания души,*
*Которая совсем не может спать... И стонет*
*О холоде моем... И говорит: «Дыши!»*
*Я слышать не могу в себе все эти звуки!*
*И лучше бы пойти во двор – уснуть в снегах!*
*Но я всю ночь дышу на собственные руки*
*В надежде, что душа моя живет в руках.*

Людміла КЛАЧКО

Мне страшна быць адной у стылым доме,
Няма з кім нават і пагаварыць.
Каб ведала сваю я анатомію,
Магла б душу-сяброўку хоць злавіць.
«Ты дзе, душа?» Яна ў адказ мне: «Дыхай!»
Не ўцяміць, адкуль голас той ідзе.
Я з ёй – як з чалавекам, яна ж – з пыхай!
Шукала я душу аж цэлы дзень:
У галаве, у пятках, ва ўсім целе,
Пайшла на двор – шукала у снягах...
Урэшце, толькі ноччу зразумела:
Душа паэта – у яго радках.






## Мікола ШАБОВІЧ

### Каханне пад дожджыкам

*Хай дзень задоўжыцца*
*І спыніцца імгненне,*
*Калі пад дожджыкам*
*Каханне – на каленях.*

Вера БУЛАНДА

Хай дзень задоўжыцца,
Застыне ў нашых ценях,
Калі пад дожджыкам
Каханне – на каленях.

А потым вечарам –
Застуджаныя гланды...
Ах, Вера, Верачка,
Ах, Верачка Буланда!..

## Анатоль ЗЭКАЎ

### Хто для чаго?

*Як лёгка мне, калі ты словы ловіш,*
*Як цяжка мне, калі гаворыш ты...*

Таццяна АТРОШЧАНКА

Я гаварыць з табой гатова
І раніцою, і ўначы.
Люблю, калі ты ловіш словы
Мае, а сам пры тым маўчыш.
Ты для мяне такі ўжо родны,
Якіх няма больш на зямлі,
Калі ва ўсім са мною згодны
І мне падтакваеш калі.
Што папрашу – адразу купіш,
А не тады, як свісне рак,
Мяне ніколі не асудзіш,
Калі зраблю я што не так.

Мой дарагі, мой мілы, родны,
Слухач адданы, ды пры ўсім
Калі адкрыеш раптам рот ты –
Нялюбым станеш мне зусім.

Лепш адтапыр, каханы, вуха,
Пачуй мой сказ – і паўтары:
«Я для таго, каб вечна слухаць,
А ты – каб вечна гаварыць».








Лёля БАГДАНОВІЧ




*Казка*

Паспрачаліся неяк Дуб з Елкаю, хто з іх больш карысны.

– Ну, зразумела, што я! – выхваляўся Дуб. – З зоркамі размаўляю, сонейку ўсміхаюся. Улетку маё галлё цень дае, увосень жалуды вырастаюць. Дзікі вельмі любяць імі ласавацца! І пчолкі да мяне прылятаюць, і птушачкі розныя. Чалавек з маіх духмяных галінак венікі робіць, каб потым імі ў лазні парыцца. А што ты? Сташ гэткая калючая, надзьмутая, нават дакрануцца боязна – адны іголкі! Ніякай ад цябе карысці.

Засумавала Елачка. І праўда, каму яна такая патрэбна?

Але аднойчы прыляцела да яе сава. Спытала, ці можна з Елачкай пасябраваць. Тая вельмі ўзрадавалася.

І пачалі яны жыць удзвюх. Цэлы дзень сава спала на зялёнай елчынай лапцы, а ноччу ляцела на паляванне. Ды крычала на ўвесь лес жудасным голасам:

– Ух-уху! Ух-уху!

Скончылася лета. Пачалі дзьмуць халодныя вятры. Пажаўцела і пааб-сыпалася лісце з дуба. Паляцелі ў вырай птушкі, разбегліся жывёлы: хто бліжэй да людзей падаўся, хто да зімовай спячкі пачаў рыхтавацца. Не відаць і пчолак, усе ў вуллі ды дуплы пахаваліся. Стаіць Дуб невясёлы. Толькі дзікі да яго прыбягаюць. Рыюць зямлю, псуюць карэнне – жалуды шукаюць. Калі-нікалі лось прыклыпае, травой паласуецца.

Елачка як была зялёнай ды прыгожай, так і засталася. Ніводнай іголачкі не згубіла. І сава побач з ёю. Ды яшчэ і вавёрачкі прыбеглі, скачуць з галінкі на галінку, шышкі лушчаць. Час ад часу дзяцел прылятае падсілкавацца.

Неўзабаве пайшоў снег. З кожным днём станавілася халадней. Зіма надышла. Мерзне Дуб, калоціцца. Зуб на зуб у яго не трапляе. А Елачцы хоць бы што. Стаіць сабе апранутая, і ніякія халады ёй не страшныя. Яшчэ і зайчык калі-нікалі прыбяжыць пад яе схавацца. Верабейкі прылятаюць, сінічкі, сарокі.

– Ну, хвалько, ідзі бліжэй, пагрэю, – кажа яна Дубу.

Той не ідзе, бо сорамна, відаць. Так выхваляўся! А тут...

Сама падышла да яго Елачка, прытулілася, захінула ад ветру. Трэба ж неяк выручаць сябра – зусім замерзне!

Дагэтуль стаяць яны ў лесе, абняўшыся. Не бачыў? А ты калі-небудзь прыгледзься. Ды пра казку гэтую не забывай. Ніколі не кідай сябра ў бядзе. І дужа не хваліся, каб потым не чырванець ад сораму. Дамовіліся?

*г. Барысаў.*






## Спатканне не ўдалося



Аднойчы Коля Кураедаў
Кабету ў госці запрасіў.
Як спадабацца ёй, не ведаў,
Ды завіхаўся з усіх сіл.

Каб добры выгляд мець, фарсісты,
Прычоску модную зрабіў.
Духамі валасы папырскаў,
Пінжак і гальштук не забыў.

Купіў букет, віно, цукеркі,
Абрусам светлым стол заслаў –
Вось і парадак! А шкарпэткі...
Шкарпэткі ён не памяняў!

Стараўся Коля шчыра, смела
Сустрэць, аблашчыць, дагадзіць.
Ды... збегла госця. Не сцярпела.
Часцей шкарпэткі трэба мыць!

**Алена ЛУЧЫНА,**
*г. Лагойск.*

## Цёткі і плёткі

У двары цэлымі днямі
Мелюць цёткі языкамі.
Усё бачаць, усё чуюць,
Кожнага яны пільнуюць:
Той сышоўся, той развёўся,
Гэты п'яны зноў прыплёўся.
Той крадзе, а той гандлюе,
Гэты ўвесь час балюе.
Хто не плаціць аліменты,
Хто гаворыць камплiменты,
У каго баліць жывот,
У каго марцуе кот –
Цэлы мех навінаў-плётак
Можаце пачуць ад цётак.
Языкі б укараціць –
Перасталі б так мянціць.
Знайдзі, цётка, хоць адно
Ў сваім воку бервяно!

**Вольга ЛАБАЖЭВІЧ,**
*г. Клецк.*



## Нядоўгія пакуты



Ты ажаніўся з іншай...
На сэрцы – холад, лёд,
Нібы пацяла куля
Яго мне навылёт.
Ты з іншай ажаніўся...
Пабачыш – пашкадуеш!
Цябе даўно кахаю,
Але мяне не чуеш.
Ты ажаніўся з іншай...
Цяпер не будзеш мой.
Ты з іншай ажаніўся –
Ды ўрэшце, чорт з табой!

**Наталля ПЯТРУШЧАВА,**
*г. Рагачоў.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА і Аляксандра БАГДАНОВІЧА.

Пад вуглом 40°




Малюнак Тамары РАДАВАНАВІЧ
і Андрэя СІДАРЭЙКІ.

## Пакуль не позна…

Нагамі ён круціў васьмёркі,
Наперад крок, а два – назад.
І «піруэтаў» рабіў столькі,
Што б пазайздросціў акрабат.
То падвываў, нібы сабака,
То нешта спрабаваў спяваць,
То рагатаў, то моцна плакаў,
Нібы дзіця – ні даць ні ўзяць.
Слупы ён абдымаў няўклюдна
Ды прыціскаў іх да грудзей.
Яшчэ і лаяўся прылюдна,
Нат не саромеўся дзяцей.
Чаму ж на «п'яную» дарогу
Ён збочыў, што на ёй шукаў?
Адно вядома: шмат благога
На гэтай сцежцы назбіраў.
Яшчэ не позна перайначыць
Жыццё на цверазейшы лад.
Не п'янстваваць і не лайдачыць,
Ісці наперад, не назад!

**Аляксей РУСІНОВІЧ,**
*Светлагорскі раён,*
*в. Пятровічы.*

# Маналог філосафа Саўкі

«Дзень добры, панове. Тэма новай філасофскай працы прыйшла да мяне ноччу, калі я асабліва востра адчуў, што ў свае гады – зусім адзін, як месячык у небе. Між тым і мая суседка Сцепаніда такая ж адзінокая… Аднак перад тым, як ісці ў сваты, вырашыў наведацца ў вёску, каб распытаць, ці варта ўвогуле распачынаць гэтую справу.

Даведаўшыся пра мае планы, першая ж сустрэчная прыгажуня выдала: «Нашто замуж пытаеш, калі хаты не маеш?» Другая гулліва прашчабятала: «У кожнага кавалера свае намеры». Трэцяя павучала: «Хлопец жэніцца, як хлеб ёсць, а дзеўка выходзіць замуж, як сваты прыйдуць».

Далейшае даследаванне дадзенай праблемы ўвогуле прымусіла мяне збянтэжыцца. Высветлілася, што многія пакуль страчаліся – цалаваліся, а як у адну хату сышліся – за чубы ўзяліся. У адной хаце мужык з жонкаю сварацца – у гаршку аж трасца варыцца. У другой жыве сям'я, пра якую кажуць: «Чорт сем лапцяў стаптаў, пакуль такую пару сабраў».

Не змаўчалі пра сваіх мужоў і жонкі. Адна заўважыла: «Сякі-такі – абы быў, абы на хлеб зарабіў». Яе сяброўка дадала: «Сякі-такі мужчына, абы дровы ды лучына». Трэцяя засмяялася: «Няхай сабе мужык, як шкарпэтка, абы я была, як кветка». Чацвёртая, наадварот, з сумам зазначыла: «Не ўсе разам сады цвітуць, не ўсе разам асыпаюцца, не ўсе тыя да шлюбу ідуць, што любяцца ды кахаюцца».

Выказаў даўно набалелае і сівы мужчына, якога я спаткаў па дарозе: «Усе дзяўчаткі добрыя, але скуль бабы ліхія бяруцца?» А другі суразмоўца з горыччу прызнаўся: «Каб ажаніцца, даў бы вала, каб разжаніцца, даў бы два».

Паслухаў я ўсё гэта, паслухаў ды вырашыў: «Тады Саўка ажэніцца, як лысы вол ацеліцца».

Вось такая выснова майго філасофскага назірання. На тым і стаўлю кропку.

Ваш філосаф Саўка».

**Маналог падслухаў Андрэй СІДАРЭЙКА,**
*Рэчыцкі раён, в. Каравацічы.*

# Як кот з сабакам



*Крыжаванка*

**Па гарызанталі:**

**1.** Невялікія гладкія дошчачкі, якімі насцілаюць падлогу. **5.** Тонкая сухая шчэпка, якой раней асвятлялі сялянскія хаты. **7.** «Павінна ж быць і ў зайца ... \\ перад халоднаю зімой» *(з верша У. Караткевіча).* **9.** Вакальны твор для аднаго голасу. **10.** «Брудным быць не хоча коцік: \\ Мые спінку і жывоцік, \\ Мые ..., хвосцік мые...» *(з верша В. Гардзея).* **11.** ... не заяц, у лес не ўцячэ *(прыказка)*. **15.** Дзе ... плача, там жняя скача *(прыказка)*. **16.** Драпежная вадаплаўная жывёліна. **17.** Кошка ды баба ў хаце, ... ды сабака на двары *(прыказка).* **18.** Іншая назва хворасту. **20.** ... – сабачы брат *(прыказка)*. **21.** Якое семя, такое і ... *(прыказка)*. **24.** Самец свінні. **27.** Багаты ...: сабака ды кошка *(прыказка)*. **28.** Кошцы смех, а мышцы ... *(прыказка)*. **29.** У каго дабро вядзецца, у таго й ... нясецца *(прыказка)*.

**Па вертыкалі:**

**1.** Так называюць дрэннага, але пладавітага пісьменніка. **2.** «Ну, такі каток харошы, \\ Як драпянка за ... грошы!» *(з паэмы Я. Коласа)*. **3.** Засталася ... ў хаце, не дам рады кацяняці *(прыказка)*. **4.** Выгук, якім адганяюць ката. **5.** Старадаўняя французская мера даўжыні. **6.** Невялікі тоўсты блін. **8.** Ядомы грыб, які хоча, каб ім частаваліся сырым. **12.** Антонім слова «мінулае». **13.** Акругленыя мышцы на задняй частцы нагі чалавека. **14.** Яго сабака трымае абаранкам. **17.** Пахучае рэчыва, якое выпрацоўваецца залозамі некаторых жывёл. **19.** Прадмет вупражы, які надзяецца каню на галаву. **22.** Паўднёваамерыканскі вярблюд. **23.** На тое і каты, каб ... лататы *(прыказка)*. **25.** Літара старажытнаславянскай азбукі. **26.** Гукі цяжкага дыхання.

**Адказы:**
**Па гарызанталі: 1.** Паркет. **5.** Лучына. **7.** Радасць. **9.** Арыя. **10.** Лапкі. **11.** Абед. **15.** Араты. **16.** Выдра. **17.** Мужык. **18.** Сучча. **20.** Сват. **21.** Племя. **24.** Кныр. **27.** Цімошка. **28.** Смерць. **29.** Певень.
**Па вертыкалі: 1.** Пісака. **2.** Тры. **3.** Адна. **4.** Псік. **5.** Льё. **6.** Аладка. **8.** Сыраежка. **12.** Будучыня. **13.** Лытка. **14.** Хвост. **17.** Мускус. **19.** Аброць. **22.** Лама. **23.** Мышы. **25.** Яць. **26.** Сап.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ,**
*г. Дзяржынск.*









Малюнак Алега ПАПОВА.



Малюнак Ганны ДЗЮКАВАЙ і Аляксандра БАГДАНОВІЧА.



Малюнак
Аляксандра ПЯТРОВА.

## Метамарфозы

**На пачатку сямейнага жыцця**

**Яна:** добрая гаспадыня, працавітая, разумная, акуратная, сціплая, непаўторная, красуня, радасць...

**Ён:** добры сем'янін, працавіты, таленавіты, цвярозы, верны, пяшчотны, зайчык, шчасце...

**У час скасавання шлюбу**

**Яна:** неахайная, гультайка, дурніца, эгаістка, ведзьма, выдра, карова...

**Ён:** бяздарны, гультай, п'яніца, мярзотнік, эгаіст, прыстасаванец, асёл...

**Заўважыў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*



# Бібліятэкары жартуюць

**Анекдоты**

**ад Марыны Рамуальдаўны БЕЛАВУС,**

*дырэктара Ашмянскай раеннай цэнтральнай бібліятэкі*

Не ведаю, хто піша сцэнарый майго жыцця, але ў яго дакладна ёсць пачуццё гумару.

* * *

– Любы, а ты мяне не баішся, калі я без касметыкі?
– Дарагая, ведаеш, я цябе і з касметыкай пабойваюся!

* * *

– Я захапляюся вашымі пачуццямі! Вы ўжо 20 год жанатыя, і дагэтуль на прагулцы трымаецеся за рукі.
– Калі я яе адпушчу, яна абавязкова штосьці купіць.

* * *

Маленькая дзяўчынка ўпершыню на вяселлі:
– Мамачка, а чаму нявеста ўся ў белым?
– У яе сёння самы цудоўны дзень у жыцці!
Праз хвіліну малая зноў пытаецца:
– А чаму жаніх увесь у чорным?

* * *

– Мілая, цяпер мы будзем жыць у дарагой кватэры, як ты і хацела!
– Як я рада! Мы купляем кватэру?
– Не, нам павысілі квартплату...

* * *

– Як ты трацiш сваю зарплату?
– 40% – на прадукты, 30% – на камуналку, 30% – на адзенне, 20% – на забавы і непрадбачаныя выдаткі.
– Але ж у суме атрымоўваецца 120%!
– У гэтым і праблема...




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

«Вожык» – грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 2 (1529), 2016 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
В. а. галоўнага рэдактара Ганна Аляксандраўна КІСЛУШЧАНКА.

Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел),* Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў),* Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*
Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zvyazda.minsk.by.
Паштовы адрас: 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: vozhyk@zviazda.ru; a-vojik@yandex.ru
Тэлефоны: галоўнага рэдактара – 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага – 284-84-52, бухгалтэрыі – 287-18-81, факс – 284-84-61.
Падпісныя індэксы:
74844 – індывідуальны, 01380 – індывідуальны льготны,
748442 – ведамасны, 01381 – ведамасны льготны.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ
Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ
Падпісана да друку 09.02.2016. Фармат 60x84 $^{1}/_{8}$. Афсетны друк. Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,38. Тыраж 1324 экз. Заказ .
Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск.





Малюнак Пятра КОЗІЧА.



Малюнак Ігара КІЙКО, Расія.



Малюнак Леаніда МЕЛЬНІКА, Расія.



Малюнак Бахрама АРДЖАМАНДНІ, Іран.



Міні-комікс Бахмана АБДЗІ, Іран.




Малюнак Аляксандра САЛАМАЦІНА, Расія.









Малюнкі Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.









**ЧЫТАЙЦЕ! У наступным нумары:**

Што атрымала ў падарунак цешча?

Як вырасціць зуб мудрасці?

Пра што Жолуд размаўляў з Пнём?

## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ — 74844**,

**індывідуальны льготны** (для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) — **01380;**

**ВЕДАМАСНЫ — 748442,**

**ведамасны льготны** (для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) — **01381.**



**ПАДПІСКА НА І ПАЎГОДДЗЕ 2016 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**
індэкс 74844, цана 30600 рублёў,
індэкс 01380, цана 24400 рублёў,
індэкс 748442, цана 88800 рублёў,
індэкс 01381, цана 70000 рублёў.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ — па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разлікова-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**


9 770132 595002 16002